№ 11 (127). Вільня, 5 Мая 1938 г. Год X.






# Сучасныя ідэолёгічныя кірункі сярод моладзі

(*Працяг, пачатак гл. «Шлях Моладзі» № 10 (126).*)

II.

З камунізмам і фашызмам, як было ўжо сказана, змагаюцца перад усім хрысьціянства і дэмакрацыя.

Калі ходзіць аб хрысьціянства, дык у першую чаргу трэба ўспомніць адроджанае сьведамае каталіцтва, каторае, прыкладам у Нямеччыне, асабліва сярод маладога пакаленьня, прадстаўляе сабой найбольшага і найадважнейшага праціўніка гітлерызму (нямецкага фашызму). Тое самае прадстаўляюць сабой маладыя каталікі ў Францыі, Бэльгіі, каторыя рашуча выступаюць і супроць камунізму і супроць фашызму, стоячы за Праўду, Справядлівасьць і Любоў. Ня можна, нажаль, гэтага сказаць аб каталіках у іншых краёх, хоць сам Папа Рымскі высказаўся проціў усякага таталізму, г. зн. і камуністычнага і фашыстаўскага.

Найбольшай-жа косьцю ў горле для фашыстаў зьяўляецца *дэмакрацыя**) — народаўладзтва. Да дэмакратаў залічаюцца рознага роду народнікі (людоўцы), сацыялісты, радыкалы і іншыя партыі і паасобныя адзінкі, якія прызнаюць дэмакратычныя ідэалы: *свабоду, роўнасьць і братэрства.* Паводле дэмакрацыі *кожны чалавек мае роўнае права голасу і можа быць выбраны на найвышэйшае нават становішча, калі гэтага зажадае большасьць насельніцтва.* Бо агулам на народнай большасьці апіраецца ўвесь дэмакратызм. Пры тым дэмакраты да перабудовы жыцьця йдуць не дарогай рэвалюцыі, але эвалюцыі — паступова. У дэмакратычных гаспадарствах жыцьцём маюць кіраваць не дыктатары-адзінкі, або партыі, каторыя, ня маючы ў народзе ўплываў, накідаюць свае пляны і волю ўсім, але сам народ праз сваіх дэлегатаў — паслоў выбраных паводле так зв. пяціпрыметнай сыстэмы, каторая кажа, што выбары павінны быць: 1) агульныя, 2) тайныя, 3) беспасрэдныя, 4) роўныя і 5) прапарцыянальныя. Дэлегаты такія становяць сойм— парлямант і кіруюць гаспадарствам. У дэмакрацыі няма народаў горшых і лепшых, ня можа быць пануючых і паняволеных, ня можа быць так-жа агранічэньняў у веравызнаваньні, бо дэмакратызм дамагаецца поўнае свабоды сумленьня і веры, а таксама свабоды слова, друку, свабоды арганізацыяў і таварыстваў. Гэткім спосабам сапраўдныя дэмакраты імкнуцца да таго, каб паміж людзьмі запанавала сапраўдная свабода, роўнасьць і братэрства.

Чаму аднак, не адзін скажа, такія прыгожыя імкненьні, такія прыгожыя дэмакратычныя прынцыпы не знаходзяць усюды шырокага падтрыманьня, папулярнасьці ў масах? Ды наадварот, чаму ў некаторых гаспадарствах, дзе ўжо паважна быў уводжаны дэмакратызм, перамаглі фашысты? Вось-жа дзеля прыняцьця і ўвядзеньня ў жыцьцё, ды асягненьня пажаданых вынікаў дэмакратызму патрэбна вялікая культурная і грамадзкая вырабленасьць кожнага чалавека і цэлага грамадзянства. Вялікія-ж ідэі не асягаюцца так скора, ды йшчэ дарогай эволюцыі. І дзеля гэтага імення камуністы, а цяпер і фашысты, ідучы да рэалізацыі сваіх ідэалаў, кідаючы рэвалюцыйныя клічы, абяцаючы перамену на лепшае ў хуткім часе, здабываюць сабе прыхільнікаў, асабліва сярод моладзі. Бо моладзь, з арлінай маладой душой, гарачая, гатовая на найвялікшыя нават ахвяры жыцьця, каб толькі хутчэй ісьці да мэты, да лепшага жыцьця. Падабаецца пры гэтым моладзі ў камунізьме і фашызьме фізычная сіла: біць, ламаць усё, што стане на дарозе. — Тымчасам паход дэмакрацыі да сваіх мэтаў больш спакойны, культурны. Адгэтуль прыклеілася да дэмакратаў кляймо „слабасьці“ і „разлезласьці“. Незаслужанае гэта аднак кляймо здыймаюць у сучасны мамэнт геройскія змаганьні дэмакратаў з фашыстамі ў Гішпаніі. Кляймо гэта здыймуць так-жа і тыя штурмавыя аддзелы, каторыя арганізуюць цяпер усе дэмакратычныя партыі, каб бараніцца ад насільнага наступу фашыстаў, каб сілай даваць адпор сіле.

Загадкай для многіх ёсьць, чаму ў некаторых краёх дэмакраты пайшлі ў „народны фронт“ з камуністамі, якія заўсёды выступалі проціў дэмакратаў, а калі цяпер гавораць аб дэмакрацыі ў СССР, то гутаркі гэтыя зьяўляюцца пустымі словамі, бо ў Саветах пануе дыктатура Сталіна і яго таварышаў? На першы пагляд сапраўды справа такога „людовага фронту“ выглядае кры-

*) Слова „дэмакратызм“ выводзіцца ад грэцкіх словаў: „дэмос“ — народ і „кратос“ — улада і азначае тое самае, што народаўладзтва.

ху дзіўна. Калі аднак узяць пад увагу наступ фашызму і патрэбу сілы адпору яму, то пабачым, што найвялікшую ролю адыграла тут тактыка — з двох ворагаў перамагчы хоць аднаго...

У сувязі з гэтым, хоць мы і не тварылі „народнага фронту“, то аднак і да нас кіруюцца пытаньні, чаму мы выступаем супроць камуністычных парадкаў у Савецкай Беларусі і агулам камуністаў? На гэта ў свой час, калі была камуністычная прапанова і для нас увайсьці з імі ў „фронт“, адказвалі мы адкідаючы гэную прапанову шырока. Цяпер-жа скажам коратка, што будзем заўсёды выступаць супроць таго, хто будзе крыўдзіць Беларускі Народ, ністожыць беларускую культуру і беларускі нацыянальна-адраджэнскі рух і такім спосабам стрымліваць імкненьні Беларусаў да лепшае долі.

III.

Вяртаючыся да тэмы артыкулу, сьцьвярджаем, што галоўнымі ідэолёгічнымі кірункамі сярод сучаснае моладзі зьяўляюцца: дэмакратызм, фашызм, камунізм і хрысьціянскі новачасны рэнэсанс (адраджэнскі рух). Калі ходзіць аб беларускі грунт, дык ёсьць тут усяго пакрысе. Найпаважней і насільней аднак прадстаўляюцца дэмакраты. Для хрысьціянскага новачаснага рэнэсансу ў нас яшчэ абсалютна не падгатаваны грунт. Дзякуючы таму, што хрысьціянства ў нас у чужой вопратцы і было выкарыстывана для розных нехрысьціянскіх мэтаў, хрысьціянскія клічы, нават у вуснах беларуса, ў шырэйшых кругох слухачоў выглядаюць вельмі наіўна. Нацыяналістычныя-ж клічы ў стылю гітлераўскім або эндэцкім, ці нават італіянскім выглядаюць, проста, не паважна. Няма ў іх зьместу. Няма чыну, няма творчага нацыяналізму. Ёсьць-жа тое, што найменш патрэбнае: пагарда дэмакратызму, пустыя шкодныя выскакі і разьбіваньне нацыянальнае еднасьці.

Гаворачы аб ідэолёгічных кірунках сярод Беларусаў у Польскім Гаспадарстве, паўстае адначасна пытаньне арыентацыі — спадзяваньня на чужую помач. Да нядаўна, ясна, найбольшую ўвагу прыцягвалі Саветы, дзе, як некаторыя казалі, меўся „будавацца беларускі дом“. Сяньня, з увагі на прасьлед беларушчыны, арыентацыя на Саветы і агулам камуністычныя ўплывы відавочна зьмяншаюцца. — Другой арыентацыяй, якая зварочвала на сябе ўвагу, было полёнофільства, каторае ў дасюлешняй форме зусім збанкрутавала. Новыя полёнофілы, якія фактычна не прадстаўляюць ніякай сілы, пакуль-што выразна свайго аблічча не выяўляюць. Агулам полёнофільства не папулярнае, бо, як бачым, нават скромненькія клічы сэн. Бэчковіча аб нармалізацыі польска-беларускіх адносінаў праходзяць бяз шырэйшага рэха, хоць яны выкліканы імкненьнем павольнае, лагоднае полёнізацыі беларусаў.

Трэцяй зьявай у катэгорыі ар'ентацыяў сярод беларусаў ёсьць імкненьне да як найбліжэйшага супрацоўніцтва беларуска-літоўска-украінскага. Гэтага, ясна, ня можна назваць ар'ентацыяй, бо ёсьць-жа гэта зусім нармальнае імкненьне да сужыцьця народаў злучаных супольнасьцяй гісторыі і сучаснай доляй. Беларуска-літоўска-украінскае супрацоўніцтва мае сваю традыцыю і мае вялікія пэрспэктывы (магчымасьці) на будучыню.

Ідэолёгічна бяручы, беларускі шлях, шлях беларускае моладзі — гэта шлях дэмакрацыі і шлях здаровага творчага нацыяналізму. Сярод дэмакратаў мы роўныя з іншымі. Дэмакрацыя нясе ўсім свабоду, роўнасьць і братэрства. Дэмакратычным вечам кіраваўся наш народ у глыбокай сівой мінуўшчыне. Дэмакрацыя гэта наша традыцыя і поступ. Ня пустыя нацыяналістычныя клічы і разважаньні аб сусьветнай палітыцы і рэвалюцыі павінны захопліваць нас, але *творчая праца на беларускай ніве*. Творчы нацыяналізм там, дзе выходзіць Божае Слова ў роднай беларускай мове, дзе творыцца беларуская літаратура навуковая, паэзія, пісьменства; творча нацыянальна працуе той, хто дбае аб палепшаньні гаспадаркі беларускай, хто дамагаецца роднае школы, хто дбае аб асьвеце для бел. моладзі, хто ўсьведамляе нацыянальна і асьвячае народ, хто пашырае любоў да свайго Краю, свае мовы, песьні, народных звычаяў і г. п., не паніжаючы нацыянальных вартасьцяў іншых народаў. Кожны беларус павінен такую працу і тыя асяродкі, з якіх яна выводзіцца, падтрымліваць, прычыняцца да таго, каб яны расьлі і разьвіваліся.

Я. Н.

---

Жалейка

## СУДЗЬБА 3)

III.

„А Лявоніху Лявон палюбіў, Лавонісе чаравічкі купіў“ — адзывалася штораз выразьней і ярчэй жывая бурлівая мэлёдыя вясковай музыкі.

— Чуеш, Ганка? — узрадаваўся Вінцусь і аж падскочыў на санях, сьвіснуў пужкай над канём, каб хутчэй дастацца ў гэтую, так ужо блізкую вёску, што сьмяялася да гасьцей залатымі вачыма, бліскучымі ад агня.

Гудзела, шумела, званіла вуліца вёскі. Заяжджалі санкі, каціліся малады вясёлы сьмех, гутарка, расплывалася музыка скрыпкі, цымбалаў і гармоніка. Затрымліваліся прад найбольшай хатай. Тут адбудзецца вечарына, і ня толькі вечарына, але паважнае сабраньне моладзі, што сяньня хоча паказаць, чаго навучылася і чаго хоча.

— Калі ласка, заходзьце — ветліва прасіў Казюк Верас — і зьняўшы з Ганкі пальто, адчыніў дзьверы ў прасторную чыстую хату. Уздоўж сьцен у хаце стаялі лаўкі, пакрытыя ўзорыстай тканінай; займала іх моладзь пераважна жаноцкая, а хлапцы, як дубы, стаялі каля вокнаў, паглядаючы на дзяўчат. Музыка заняла пачэснае месца ў куце хаты, на высокіх лаўках. Усе вочы зьвярнуліся на Ганку, бо выглядала нязвычайна прыгожа. Яна можа прачувала, можа адгадала, што на гэты вечар, да гэтае хаты і для ясных вочаў хлапца найлепш будзе прыстроіцца ў сукенку з шэрага вясковага палатна, вышыванага польнымі кветкамі ды ў чырвоныя пацяркі, быццам ягады каліны, якія доўга ляжалі на дне матчынага куфра. З павагай гаспадара хаты, Казюк пазнаёміў Ганку з моладзяй і заняўся самай імпрэзай (вечарынай).

Загрымела песьня з маладых грудзей, затрасла хатаю, быццам наглая веснавая бура, аж шыбы задрыжэлі — быццам гэта песьня хацела вырвацца з хаты на сьвет шырокі:

„О, край родны, край прыгожы,
мілы кут маіх дзядоў“...

## Новы паход Масквы супроць беларушчыны

У сьвежай яшчэ памяці апошні гэтак званы нацдэмаўскі пэрыяд глумленьня Масквы над беларускімі культурнымі вартасьцямі. Пачалося тады ад ссылкі ў 1930 г. на галодную сьмерць заслужанага піонэра беларускага адраджэньня праф. Бр. Эпімах-Шыпіллы, усьлед за якім пайшлі дзесяткі і соткі тысяч найлепшых сыноў Беларусі. Кабжа зламаць тых, што ад гэтых чыстак уцалелі, тая-ж Масква ў 1933 г. загадала правесьці няшчасную рэформу беларускае граматыкі й правапісу ў такім абыйме, што гэта раўнялася-б зьмене самага языка, калі-б гэта наагул было магчымым.

Але апошнія паведамленьні газэт паказваюць, што Маскве і гэтага яшчэ мала. Заводзячы апошнім часам прымусовае навучаньне расейскае мовы ў пачатковых школах на Беларусі, савецкія ўлады прыйшлі да перакананьня, што „беларускі язык надта розьніцца ад расейскага" і таму запраектавалі гэту розьніцу зглядзіць. Дзеля гэтага, як падаюць тыя-ж газэты, у Саветах ужо прыгатаваны новы праект рэформы беларускага правапісу, які сам язык беларускі імкнецца да рэшты перарабіць на манер маскоўскі. У гэтым праекце між іншым касуецца найважнейшая прымета беларускага языка — *аканьне.* Прыняўшы гэту новую «рэформу» ў Сав. Беларусі змушаны будуць людзі пісаць напр. *голова,* замест *галава, собака* замест *сабака, корова* замест *карова* і г. д. Словам — русыфікацыя ў поўным ходзе. Але, «ня столькі хамскія натуры на карках вынесьлі сваіх...“

## Да справы разьвіцьця антысэмітызму.

Антысэмітызм—процiўжыдоўскія выступленьні—апошнімі часамі пачаў што раз часьцей праяўляцца і ў нашым Краю. Праява гэта для нашага народу ёсьць чужая і дэмаралізуючая. Дэмаралізацыя плыве перад усім з антыжыдоўскіх забурэньняў у нашых мястэчках, дзе ў маладых сэрцах распальваецца ненавісьць чалавека да чалавека. Цікава пры тым, што ненавісьць гэту да жыдоў паддаюць нашаму народу рознымі забабоннымі нашэптамі цёмныя элемэнты, якія ў гэтым маюць скрытую сваю мэту. Мы ведаем з гісторыі, што ў нашым Краю Жыды жывуць здаўна і між імі і нашым народам ніякіх забурэньняў ня было. Наадварот, беларускае сялянства з жыдамі, асабліва рамесьнікамі было ў суладзе і згодзе; да жыдоўскага ў нашых сёлах гандлю, які часта стаяў і стаіць не на адпаведняй вышыні, сяляне адносіліся ня вельмі прыязна, але ніколі не праяўлялі дзікай расавай ненавісьці.

Антысэміцкая прапаганда,абапёртая на розных забабонах, у родзе такіх, як быццам Жыды на свой Вялікдзень забіваюць хрысьціян, каб з іхняй крывёй пячы сваю пасху — мацу, ёсьць беспадстаўныя. Забабон аб мацы з хрысьціянскай крывёй цёмныя элемэнты пашыраюць сумысна дзеля падбурэньня людзей проціў Жыдоў. Як часта на гэтай аснове бываюць зусім беспадстаўныя і непажаданыя зьявы, сьведчыць між іншым выпадак, які здарыўся сёлета ў нашым Краю і аб якім Беластоцкі Ваяводзкі ўрад выдаў гэткі камунікат:

— 5 красавіка 1938 г. у Дамброве, Сакольскага пав. было наступнае здарэньне: Падчас рэвізіі ў краме Ханы Езровіч (жыдоўкі), дзе акцызьнікі шукалі кантрабанднага тутуну, прыпадкам зайшоў у краму 12-годні хлапец. Хана Езровіч, карыстаючы ўпушчаньнем у краму хлапчука намагалася ўцячы з крамы. Адзін з акцызьнікаў, што праводзілі рэвізію, каб спыніць Хану Езровіч, зачыніў і запёр дзьверы. Хлапчук у гэты час спужаўся і разьбіўшы акно выскачыў на двор, пры тым разрэзаў сабе пабітым шклом руку. На вуліцы хлапчук пачаў крычаць, што жыды хочуць яго „зарэзаць на мацу“. У мястэчку быў кірмаш, зьбегліся людзі і бяскрытычна паверылі перапуджанаму хлапчуку, ды пачалі біць вокны і разьбіваць жыдоўскія крамкі. Прыехала паліцыя і пагром усьмірыла, арыштоўваючы некалькі асоб.—

Вось рэзультат нясумленнага ці лёгкамысна распаўсюджванага бязглуздага забабону.

Беларуская моладзь з такімі забабонамі павінна бязумоўна змагацца дзеля абароны свае чэсьці і нашай людзкой годнасьці.

*п.*

---

А ціха, лагодна нясьліся словы, быццам шумела ніва збожжа:

„Ой рана, рана
сасна шумела“...

Ганка заглядзілася ў малы бляды агонь лямпы, расхістаны віхурай песьні, каторы амаль ужо гас, каб за хвіліну разгарэцца большым і ясным полымем. Нейкія нязнаныя лятуценьні плылі ад гэтых песьняў і чаравалі душу. Ганка думала аб тым, як прылучыцца да гэтае моладзі і разам з усімі сьпяваць. Але сьціхла родная песьня. Настала хвіліна цішы, адазваўся голас Казюка:

— Карыстаючы сяньня з вялікага сабраньня моладзі, хачу сказаць некалькі слоў і прыпомніць аб тым, аб чым нераз мы ўжо гаварылі. Кожны з нас зьвязаны з сваёй зямлёй цэлым сваім жыцьцём, кожны з нас цэлым сэрцам кахае родную ніву і хацеў-бы сваю працу на ёй якнайбольш выкарыстаць. Ведаем, як нізка стаіць наша земляробская культура і што гэта ёсьць аднэй з прычынаў беднаты нашых вёсак. Вось-жа мы мусім вучыцца гаспадарыць культурна. Магчымасьцяў вучыцца ў школах земляробскіх — мала, дык будзем саматугам здабываць веду. Кніжкі, часапісы будуць нам у гэтым вялікай помачай. Дык што вечар, калі ласка, хто можа і мае ахвоту, хай прыходзе ў гэтую хату і паслухае. Я з вялікай радасьцяй падзялюся з вамі тым, чаго сам навучыўся. Урэшце хто можа і колькі, прашу злажыць складку на запачаткаваньне нашай земляробскай бібліятэчкі.—

Адазваліся гучныя воплескі і ўмяшалася ў іх музыка, пачынаючы вечарыну вясёлай полькай. Пры століку сядзеў Казюк з малодшым хлапцом, зьбіраючы складкі. Гульні і стараньня моладзі прыглядаліся і прыслухоўваліся старыя бацькі і маткі. Сядзелі на лаўках у куце хаты і паважна між сабой вялі гутарку. Былі задаволены, што дзеці іхнія так прыкладна выкарыстоўваюць вольны час. Ніякага п'янства, ніякай сваркі ці калатні ня было тут. Панавала згода і суладзьдзе. Моладзь здаровая моральна і фізычна нават у час забавы думала аб будучыні. Былі тут і дзеці, якія стаялі грамадой ля парога хаты, разглядаючыся

# Hutarka z Finlandcam

Niadaŭna havaryŭ adzin žurnalist z Polščy z finskim ministram aśviety. Na pytańni (drukavanyja kursyvam) ministr Hannula davaŭ vielmi cikavyja adkazy.

— *Jak u Vas staić sprava baraćby z analfabetyzmam (niaḥramatnaściu)?*

— Sprava analfabetyzmu u nas naahuł nia isnuje. U majoj baćkaŭščynie kožny sielanin maje ŭ svajoj chacie radioaparat, telefon i elektryčnaść. Jak-ža Vaspan chočaš, kab hetki čałaviek nia ŭmieŭ čytać. My ŭvažajem, što adna hazeta na hałavu, heta mała i jdziom da jšče bolšaha pašyreńnia čytańnia; što-ž u hetkich varunkach havaryć ab analfabetyźmie?...

— *Ci navuka ŭ Vas biasplatnaja?*

— U pačatkavych škołach zusim niama nijakich apłataŭ. U škołach siarednich apłata byvaje roznaja, ale nia vyšej 40 zł. u hod. Zrazumiełaja reč, što padručniki i školnaje pryładździe vučni ŭsich škołaŭ atrymoŭvajuć zusim za darma. Akramia taho vučni, što prychodziać u škołu z dalšych chutaroŭ, na miescy na rachunak kazny atrymoŭvujuć pierakusku.

— *Što robić urad, kab dziaciom sialan i rabotnikaŭ ableḥčyć dostup u vyšejšyja škoły?*

Nia viedaju ci dobra razumieju pytańnie. Usie my, z małymi vyniatkami, źjaŭlajemsia sialanami i rabotnikami, usie roŭna zmahalisia z uciskam Rasiei, zdabyvajučy niezaležnaść dla svajho kraju. U nas niama vialikich roźnic u roŭni žyćcia, a tym bolš niama roźnic stanu. Dziŭnym dziela taho było-b staŭlańnie niejkich pieraškod dla tych, chto choča vučycca. Reŭna-ž, nie zaleža nam na tym, kab kožny žychar mieŭ dyplom filozofii ci prava. Takich ludziej majem užo davoli. My starajemsia absolventaŭ siarednich ahulna-aśvietnych škoł kiravać u škoły fachovyja. Na taki niavinny „luksus", jak adukacyja, moža sabie pazvolić kožny hramadzianin našaha Kraju.

—*Jak sarḥanizavana finlandzkaje školnictva?*

— Na 3.800 000 žycharoŭ majem kala 12 tys. škoł pačatkavych, u jakich vučycca kala paŭmiljona dziaciej pad apiekaj 14 tys. nastaŭnikaŭ. Himnazijaŭ majem 235 z 50 tys. vučniaŭ. Universytety znachodziacca ŭ Helsinkach i Turku (Abo). Akramia taho jość cełу rad škołaŭ specyjalnych, fachovych, politechnika i nastaŭnickija seminaryi.

Ab tym, jak žychary Finlandyi ḥornucca da knižki, finski ministr kazaŭ hetak:

— Mahu padać ahulnyja ličby. Letaś (u 1937 h.) naša pošta daručyła padpiščykam 200 miljonaŭ hazet i časapisaŭ. Nakład štodziennaj hazety byvaje ad 50 da 100 tys. ekz. u dzień, pry abyjmie 16—20 bačyn. Śviatočny-ž numar naprykład takoj „Uusi Suomi" mieŭ 124 bačyny. Rovień usich hazet vielmi vysoki.

Urešcie ab tym, jak žychar Finlandyi karystaje z takich kulturnych ustanoŭ, jak *teatr*, finski ministr zajaviŭ:

„O, teatr u našym žyćci adyhryvaje asablivuju rol, jak sposab vychavańnia. Dam prykład, jaki paćvierdzić papularnaść teatru u majoj staroncy.

U małym miastečku, jakoje naličvaje ŭsiaho tysiaču žycharoŭ, u rabotnickim teatry, u adnym sezonie, pry ščylna zapoŭnienaj zali, vystaŭleny byli tvory Ibsena, Strindberga, Molier'a, Tołstoj'a, Šekspira. Za samaje tolki aŭtorskaje prava vypłačana było 3.600 marak. Pry hetaj akazii chaču prypomnić, što słaŭny muzyka Jan Sibelius byŭ Finlandcam..."

Hetak vysaka moža padniacca kultura i dabrabyt narodu, jaki pilna pracuje, pilnujecca svajho i na čužoje nia kvapicca.

*V. V.*

*А. ГАЦУРА*

## Вясна ідзе!..

*Па ўсіх куткох зямелькі роднай*
*Сонца цёплае брыдзе:*
*Ўзбудзіла Нёман срэбна-водны —*
*Вясна ідзе! Вясна ідзе!*

*З замора к нам зьлятаюць птушкі*
*Наўперад бусел іх вядзе,*
*Прыветам дараць шчабятушкі:*
*Вясна ідзе! Вясна ідзе!*

*Дзеці выбегшы із хатаў*
*Мачаюць ножкі у вадзе,*
*Крычаць бадзёра-зухавата:*
*Вясна ідзе! Вясна ідзе!*

іскрыстымі вачыма. Ім таксама можна было-б прыйсьці ўвечар да Казюка Вераса, паслухаць чытаньня і вучыцца песьняў, якімі яны захапляліся. Да ўсяго гэтага прыслухоўвалася і прыглядалася Ганка, вочы каторае пабачылі зусім новае і цікавае жыцьцё. Была яна быццам у нейкім чароўным сьне.

Развудзіўся ў ёй новы, другі чалавек, жадала яна цяпер цэлым сэрцам увайсьці ў грамаду гэтае моладзі і разам з ёй ісьці на дарогу змаганьняў за праўду і дабро... плысьці разам на „сонечны бераг" — як кажа паэт Машара.

— Магу вас прасіць на адзін вальчык—скланіўся перад ею Казюк Верас. — Надта я сяньня шчасьлівы з вашай прысутнасьці, панна Ганка... дык скажэце, калі ласка, ці прыемна вы тут гуляеце?..

Ганка хвіліну маўчала, пасьля гледзячы яму ў вочы — прагаварыла:

— Хачу з вамі працаваць..

Заціхла музыка, Казюк сьхіліўся над рукою Ганкі і ветліва ёй дзякаваў. Памалу сабіраліся ўсе дамоў. Пайшоў так-жа запрагаць каня і Вінцусь. На дварэ панавала ціхая месячная ноч. Маладая грамада разыходзілася ў розныя староны. Казюк адводзіў Ганку, а на разьвітаньне сказаў:

— Буду частым вашым гасьцём.

— Вельмі мне будзе прыемна — адказала ціха дзяўчына.

І санкі з званочкам панясьлі яе ў засьнежаную даль.

Казюк стаяў ля хаты і глядзеў за зьнікаючымі санкамі ў ціхой мёртвай белі. „Хачу з вамі працаваць"... зьвінелі яму словы Ганкі. Адчуваў у сабе вялікую ахвоту да працы на роднай ніве, як той араты, што пагодным веснавым днём пачынае сеяць поле.

Ганка маўкліва сядзела ў санях і глядзела ў белы сьнежны прастор сьвету. Дарма стараўся Вінцусь навязаць з ею гутарку.

Яна лятуцела аб працы на роднай ніве і аб лепшай долі. Серабрыстыя-ж праменьні месяца цалавалі яе вочы. Думкі пераплывалі і мяшаліся: песьня, цудоўная беларуская песьня... Казюк... Хвалі музыкі... Сонечны бераг... Дзіўна ўсё гэта дзеела на яе і клікала да працы і змаганьня... *(д. б.)*.

*Запрог ў саху Рыгор сівулю,*
*Барозны зьмейкаю кладзе,*
*Сынок жане ў хмызьняк Красулю;*
*Вясна ідзе! Вясна ідзе!*

*Глядзіць Марыля, ці ўжо суха*
*Ўсадзіць цыбулі на градзе;*
*Пайшла у бабаў завяруха —*
*Вясна ідзе! Вясна ідзе!*

*Бы дзеўчынка ў шлюбнай модзе,*
*Ў садзе дзераўца цьвіце,*
*Гудуць-жа пчолкі ў-ва гародзе—*
*Вясна ідзе! Вясна ідзе!*

*Вецер сьвежанькім запахам*
*Пляцёнкі з зелені пляце;*
*Шавеліць ўсё пад Божым дахам—*
*Вясна ідзе! Вясна ідзе!*

*Ах ты Вясна! як ты ўсім міла,*
*Ты ўсім пацеху прынясла;*
*Сваім вянком зямлю пакрыла*
*Чароўным ўзорам запляла.*

Заямно, 1938.

## *СПАТКАНЬНЕ*

*Рана ў нядзелю старэнькі дзядуля*
*выйшаў у поле з сяла*
*глянуць, як статка пільнуе Настуля,*
*глянуць, як грэчка ўзыйшла...*
*Ідзе ён і цешыцца сьпевам птушыным,*
*радасна вокам глядзіць,*
*і бачыць: ля сьвежай капы канюшыны*
*заяц спакойненька сьпіць...*
*Зь літасьцю, сьмехам падходзе старэнькі;*
*зайчыну кульбай крануў,*
*і засьмяяўся—кажа: „Дурненькі,*
*добра ты тут храпянуў!*
*Смачна пасьнедаў, відаць, небарака.*
*Добра, што я надыбаў!*
*Гэтак ня важна: ня дай Бог, сабака —*
*вось ты-б тады і паспаў!..“*
*Зайка адбегся, дубка прыпадняўся —*
*бы слухаць, як дзед наракаў, —*
*сеў, пасядзеў... і спакойна у жыта,*
*ўздоўж па аўсе паскакаў...*
*Быццам ён ведаў, што ў сэрцы старога,*
*сьветлы пануе спакой...*
*Быццам ён знаў, што ня крыўдзіць нікога*
*той, хто магутны душой!..*

*ЯНКА БРЫЛЬ*



Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy

7)

# Umovy i zahady nieabchodnyja dla zdaroŭja

## Hygijena spažyvieckich praduktaŭ

Spažyvieckija pradukty tolki tady buduć karysnyja čałavieku, kali miecimuć usie *składovyja častki* j kali nia buduć *sapsavanyja.* Sapsavanyja pradukty nia tolki što bieskarysnyja, ale mohuć być navat vielmi *škodnymi* dziela zdaroŭja. Asabliva važna, kab u praduktach nia było *zaraznych bakteryjaŭ.* Prykładam hniłoje miasa, kali jaho čałaviek najescca, dyk nia tolki nia miecimie karyści, ale ciažka zachvareje.

Zarazki šmatlikich chvarobaŭ, jak *tyfus brušny, kryvaŭka, dyfteryja, suchoty,* pierachodziać na ludziej sa spažyvieckich praduktaŭ. Kab zabiaśpiečycca ad henych hroznych mahčymaściaŭ, treba nahladać za *čyścinioju vady j małaka,* kab jany nikoli nie sustrakalisia z vyparažnieńniami chvorych ludziej.

Bakteryi nie pieranosiać *haračyni,* tamu ich nia budzie ŭ stravie, jakaja była varana ci aparana haračaju vadoju. *Syryja* za toje pradukty mohuć mieć u sabie niebiaśpieku zaražeńnia. Tamu kali jamo niešta syroje, kali henyja syryja pradukty pachodziać z nieviadomaha nam miesca, dyk zaŭsiody treba ich dobra vymyć i spałaskać na‘t i ŭ chałodnaj tolki, ale pieravaranaj vadzie.

*Vada* nadta važnaja dziela arhanizmu čałavieka. Narmalna čałaviek vypivaje kala $1^1/_2$ (paŭtara) litra jaje ŭ dzień. Biazumoŭna, kolkaść henaja chistajecca zaležna ad haračyni, ad miesca pracy dy ad šmat jakich jašče inšych pryčynaŭ. U suviazi z tym, što ludzi hetak šmat pjuć vady, nadta važna, kab vada heta była *dobraja.* Studni, z jakich čerpajem vadu, nia mohuć być zablizka kala chlavoŭ, adchodnych miascoŭ (zaciškaŭ). Zdarovaja vada pavinna być zusim prazrystaja, biaz nijakaha koleru, z miłym smakam, ale biaz nijakaha pachu.

Najčaściej vada moža być zaniačyščana mačoju j kałam z adchodnych miascoŭ. Užo viedajem, što ŭ mačy i ŭ kale traplajucca roznajakija bakteryi, dyk lohka možam ujavić niebiaśpieku tych, što jaje picimuć, kali, nia daj Boh, budzie pasusiedzku niechta chvory; cieraz niačystoty jahonyja moža zachvareć całaja vioska.

Tamu ŭ dobra zarhanizavanych dziaržavach sanitarnyja ŭłady ad pary da pary pravodziać analizu vady ŭ studniach, z jakich karystajecca nasielnictva.

Nia ŭsiudy možna karystacca z vady kryničnaje ci sa studniaŭ. Pjuć ludzi vadu mutnuju z rečki

# Z biełaruskaha žyćcia

**Biełaruskaja pilihrymka ŭ Kalvaryju.** Biełarusy kataliki ŭ Vilni za prykładam minułych hadoŭ i sioleta ładziać u niadzielu 12-ha červienia biełaruskuju pilihrymku ŭ Kalvaryju pad Vilniaj. Da ŭdziełu ŭ hetaj pilihrymcy arhanizatary zaprašajuć usich biełarusaŭ z viosak i miastečak. Kožny, biazumoŭna chto moža, pavinien pastaracca ŭziać udzieł u svajej pilihrymcy, u časie jakoj pačuje z vusnaŭ biełaruskich ksiandzoŭ kazańni ŭ rodnaj biełaruskaj movie, a taksama svaje biełaruskija relihijnyja pieśni. Dla prybyŭšych z pravincyi zborny punkt 11-ha červienia (ŭ subotu) ŭ Vilni, Zavalnaja vul. № 1, pamieškańnie 2 (redakcyja „Chryścijanskaje Dumki"). Adhetul kožny budzie adviedzieny da zahadzia pryhatavanaha biasphatnaha pamieškańnia na načleh. 12-ha červienia (ŭ niadzielu) zborny punkt kala kaścioła śv. Mikałaja, u jakim a hadz. 7-aj rana budzie nabaženstva, a paśla pilihrymka vyjdzie ŭ Kalvaryju.

**Ukraincy cikaviacca biełaruskaj litaraturaj.** Apošni № 7-8 z 15.IV.1938 h. ukrainskaha litaraturna-navukovaha časapisu „Назустріч" pryśviačany biełaruskaj litaratury. Na pieršym miescy ŭ hetym numary nadrukavany vialiki infarmacyjny artykuł red. J. Šutoviča p. n. „Sučasnaja biełaruskaja litaratura". Dalej-ža źmieščany pierakładzienyja na ukrainskuju movu niekatoryja vieršy našych pieśniaroŭ: J. Kupały, A. Dudara, Mašary, Tanka, N. Arsieńnievaj, Łužanina i Vasilka. Aprača taho źmieščany klišy: Tanka, Mašary, Arsieńnievaj i Vasilka.— Fakt hety śviedčyć, što Ukraincy cikaviacca biełaruskaj litaraturaj i paśviačajuć joj naležnaje miesca, za što biazumoŭna, kožny biełarus im udziačny. — My ciešymsia, što prysłužyłasia tut tak-ža i redakcyja „Šlachu Moładzi", da jakoj u hetaj spravie źviarnułasia ukrainskaja redakcyja, i što ideja biełaruska ukrainskaha zbližeńnia pašyrajecca.

**Novyja pieśni.** Słaŭny ukrainski kampazytar A. Košyc, jaki žyvie ŭ Nju-Jorku (Ameryka), zharmanizavaŭ i prysłaŭ u Vilniu hram. R. Šyrmie try biełaruskija narodnyja pieśni: „Tam za sadam", „Oj vyjšła maci iz novaje chaty" i „Oj u sadzie vinahradzie". Za hetuju pracu Vialikamu Synu Ukrainskaha Narodu češć i słava!..

**Viečar u češć śv. p. dr. T. Hryba,** b. staršyni Abjednańnia Biełaruskich Studenckich Arhanizacyjaŭ, ładzić Bieł. Studencki Sajuz u Vilni 7 h. m. u 6-taj zali hałoŭnaha budynku Vilenskaha Univeŕsytetu. Referat pračytaje inž. A. Klimovič. Pačatak a hadz. 19-aj.

**Pamior bieł. stud. V. Staŭbunik.** 29 krasavika sioł. u Vilni pamior pradčasna małady 19-cihadovy biełaruski student prava i hramadzkich navuk vil. universytetu Viačesłaŭ Staŭbunik, z pryčyny kamplikacyjaŭ u zdarovi pašła mocnaje prastudy. — Śv. p. V. St. pryjmaŭ čynny ŭdzieł ŭ bieł. hram. žyćci, pradčasnaja śmierć jaho naviejała sum siarod bieł. stud. moładzi.—Viečnaja pamiać!..

**Matura ŭ Biełaruskaj Himnazii ŭ Vilni.** 4 h. m. u Vil. Bieł. Himnazii pačalisia piśmiennyja maturalnyja ekzaminy. Ahułam da ekzaminu prystupiła 17 asob.

**Papularnaść Biełaruskaha Muzeju ŭ Vilni raście.** Sioleta ŭ časie Tydnia Prapahandy Muzejaŭ u Vilni adviedała Biełaruski Muzej im. Iv. Łuckieviča kala 4000 asob.

**Novy prezydent Biełaruskaje Akademii Navuk u Miensku.** Niadaŭna ŭ Miensku adbylisia vybary novaha prezydenta Biełaruskaje Akademii Navuk. Vybrany K. V. Gorev. Skončyŭ jon Instytut kalarovych metałaŭ u Maskvie ŭ 1930 h. i ad 1933 h. byŭ docentam hetaha instytutu. — Zusim pravilna, padajučy ab hetym viestku, piša „Kałośsie", što prezydent z takimi kvalifikacyjami jość horkaj naśmieškaj kamunistaŭ nad Biełaruskaj Akademijaj Navuk.

**Na dapamahovy fond biełaruskaj moładzi pry „Šl. Mł."**

*achviaravali:*

Albin Papłaŭski 1.50 zł., An. Š. 2 zł. i Maciej Balukievič 1 zł.

Usim achviaradaŭcam ščyra dziakujem.

**Red. Kal. „Slachu Moładzi"**

---

ci sa stavu. Kab krychu ačyścić, pracedžyvajuć jaje cieraz *filtry*. Spačatku heta pamahaje. Ale z časam filtr sam zaniačyščajecca, u jom sabirajecca šmat bakteryjaŭ, vada što pierachodzić cieraz hetki filtr, zaražajecca i ludzi, pjučy jaje, nia dumajučy zusim i nia viedajučy pryčyn, pačynajuć chvareć.

Najlahčejšy sposab mieć zdarovuju vadu, heta *kipiačeńnie*. Davoli było-b varyć cieraz 10 minut, kab zabić usie žyvyja istoty, što ŭ joj žyvuć. U chatniaj haspadarcy heta niemały kłopat, a druhoje, što hetkaja vada nia vielmi *smašnaja*. Adnak kali ŭ akolicy akažycca niejkaja epidemija, dyk usio-ž treba tak rabić, kab prynamsia na skolki heta mahčyma zabiaśpiečycca ad chvaroby.

Pa inšych chatach trymajucca takoha abyčaju, što ceniačy vielmi vadu, kali jana prychodzicca ciažka, trymajuć adnu dziela pićcia, druhuju-ž dziela myćcia, da načyńnia i h. d. Abyčaju nia možna nadta pachvalić, časta lohka pamylicca j zachvareć, pjučy niačystuju, ci choć-by tolki niapeŭnuju vadu.

Bolšaść bakteryjaŭ prapadaje ad chaładu, adnak niekatoryja mohuć žyć na't i ŭ lodzie. Dziela hetaha vadu z lodu možna tady tolki rabić, kali majem peŭnaść, što zamierzšaja vada była čystaju.

Było ŭžo kazana, što pry dajeńni treba nahladać za čyścinioju, inakš lohka moža łučyć niejkaja zaraza *cieraz małako*. Pieravaranaje małako biaśpiečnaje, zatoje jano nia nadta smašnaje. Kab nie papsavać smaku małaka, možna zabić bakteryi hetkim sposabam, što nahreć jaho da temperatury 42—43 hradusaŭ i patrymać hetak z paŭhadziny. Napaminajem tutaka ab sposabie pryhataŭleńnia małaka, zapisanym u razdziele ab karmleńni małoha dziciaci. Nikoli zašmat nia budzie ruplivaści ab čyściniu henaje tak vielmi važnaje stravy ŭ małych dziaciej.

Havoračy ab małace, treba było-b skazać jašče niekalki słoŭ ab pasudzinie, u jakoj treba trymać jaho. Kališ pasudzina była viadomaja adna— dzieraŭlanaje viadro (dajnica) abo hlinianу harščok. Dzieraŭlanaja pasudzina, chacia j była dziela roznych pryčynaŭ dobraju, mieła svaje zahany. Jaje ciažka było trymać u čyścini, dziakujučy prysutnaści ščarubinaŭ pamiž klepkami. Małako chutka ŭ joj kisła. Šmat praktyčniejšyja pasudziny z blachi cynkovaje ci cynkavanaje. Treba zvažać, kab blacha henaja była hładkaja, kab nie ržaviela, inakš małako maje horšy smak. Pasudzinu hetkuju lohka vymyć. Da myćcia treba brać haračuju vadu, a kab tam nia było nijakich kiślaŭ, dyk da vady dadajecca krycha sody. Vypałaskaŭšy pasudzinu, treba paviesić jaje ŭvierch dnom, kab dobra prasochła.



## ШТО ЧУВАЦЬ

— **1-шы Май** — Сьвята Працы — сёлета агулам прайшоў спакойна, хоць шмат хто спадзяваўся, што будзе ён бурным. У Польскім Гаспадарстве да забурэньняў і бойкаў правакавалі работнікаў перад усім эндэкі і іншага роду нацыяналісты. Да грознае сутычкі дайшло ў м. Кельцы, дзе былі нават стрэлы і адзін чалавек забіты, і ў Горадні, дзе работнікі моцна пабілі групку эндэкаў, каторая напала на першамайскі работніцкі паход. У Вільні ніякіх паходаў ня было, адбыліся-ж аднак 4 акадэміі (сабраньні).

—**ОЗоН** далей расклейваецца. За апошні тыдзень выступіла з яго больш 20-цёх паслоў і сэнатараў, а таксама шмат розных дзеячоў, пераважна нацыяналістычнага кірунку. Адначасна кіраўніцтва ОЗоНу мае правесьці генэральную чыстку ў радох сваіх арганізацыяў. У сувязі з гэтым газэты ўзноў падаюць весткі, што **ў Польшчы** маюць, быццам, наступіць некаторыя зьмены, галоўным чынам у складзе цяперашняга ўраду.

— Між **Літвой і Польшчай** усьцяж адбываюцца перагаворы ў справе наладжаньня нармальнае камунікацыі, гандлю і агулам супольных адносінаў.

— У апошніх днях м-ца красавіка **французскі прэм'ер Далядіе** і мін. загр. спр. Боннэт езьдзілі ў Лёндын на перагаворы з прадстаўнікамі **англійскага Ураду**. Галоўнай тэмай гэтых гутарак была справа навязаньня цясьнейшага палітычна-вайсковага англійска-французскага супрацоўніцтва. Апрача гэтага было абгаворвана **палажэньне Чэхаславаччыны, спроба паразуменьня Англіі і Францыі з Нямеччынай, справа Гішпаніі,** а таксама **англійска-французска-італіянскае паразуменьне.** З апублікаваных вестак аб нарадах выглядае, што Чэхаславаччына пакінута свайму лёсу на выпадак, калі-б Нямеччына аружна выступіла супроць яе. Англія ў гэтую справу рашуча адказваецца ўмешвацца; без яе-ж не адважыцца хіба аружна выступіць супроць Нямеччыны і Францыя. Каб аднак навонкі выглядала прызваіта, Англія і Францыя заклікаюць Нямеччыну і Чэхаславаччыну пагадзіцца, вырашаючы справу нацыянальнае меншасьці ў Чэхаславаччыне палюбоўна. Тымчасам немцы ў Чэхаславаччыне на сваім кангрэсе ў Карлсбадзе ў канцы красавіка сёл. паставілі такія дамаганьні, каторыя, калі іх праводзіць у жыцьцё, вядуць да **разьбіцьця Чэхаславацкае гаспадарственнасьці.** Пры тым газэты пішуць, што Гітлер імкнецца ня толькі да злучэньня чэхаславацкіх немцаў з Нямеччынай, але агулам **забраць усю Чэхаславаччыну** пад сваю ўладу, **а пасьля** пашыраць нямецкія ўплывы далей у **Румыніі, Мадзяршчыне, Баўгарыі і Югаславіі.** Чэхаславаччына ідзе Немцам на ўступкі, адначасна аднак заяўляе, што свае незалежнасьці будзе бараніць да астатку сілаў. Такім чынам справа нямецка-чэхаславацкая трывожыць увесь сьвет, тым больш, што быццам нядаўна з **СССР у Чэхаславаччыну** прыляцела 300 бамбавозаў.

— 2 г.м. **Гітлер** паехаў у адведзіны да **Мусолініга** ў Італію. На яго спатканьне прыгатаваныя вялікія ўрачыстасьці, адбудуцца так-жа вайсковыя манэўры і палітычныя нарады. З гэтае прычыны французская газэта „La Lumiere“ піша, што ў Італіі пануе вялікае незадаваленьне з парадкаў Мусолініга. Каб незадаваленьне здушыць і каб забясьпечыцца ад непрадбачаных і непажаданых дэманстрацыяў у часе пабыўкі Гітлера ў Італіі, праведзеныя там масавыя арышты. Вастрогі перапоўненыя. Кожную-ж ноч на мурох паяўляюцца напісы „Мусоліні здраднік бацькаўшчыны“.

— Ня гледзячы на прыезд Гітлера ў Італію, у Рыме далей адбываюцца гутаркі **французска-італіянскія** аб папраўленьні супольных адносінаў.

— **У Палестыне** забурэньні ня сьціхаюць. Арабы далей бунтуюцць і аружна выступаюць супроць Англійцаў.

— **У Гішпаніі** ўрадаўцам удалося стрымаць далейшы наступ паўстанцаў. Агулам-жа баі йзноў крыху зьменшыліся.

— **На Далёкім Усходзе** большых зьменаў ня відаць. Кітайцы далей пакрысе наступаюць на Японцаў і стараюцца адбіраць ад іх свае землі.

*jn.*

## М. Забэйда-Суміцкі ў Берасьці

Слаўны наш сьпявак Міхал Забэйда Суміцкі 30-га красавіка выступаў з канцэртам песьні ў Берасьці над Бугам. Канцэрт арганізавала мясцовае расейскае таварыства — Р.Б.О. Паміма арганізацыйных недахопаў (слабая рэкляма), а так-жа паміма свайго роду байкоту з боку палякоў і некаторых расейцаў, на канцэрт беларускага сьпевака ўсё-ж сабралася людзей шмат. І гэтыя, што прыйшлі, не ашукаліся, — некаторыя мо' першы раз у жыцьці паслухалі чар песьні ў мастацкім выкананьні нашага сьпевака. Праграма канцэрту складалася з італіянскіх, польскіх, расейскіх і беларускіх песьняў, і трэба сказаць, што найбольш усім спадабаліся беларускія песьні. З прасьпяваных беларускіх песьняў — *„Ляціць сарока“, „Малады дубочак“, „Чаму мне ня пець“ і „Лявоніха“*,—дзьве апошнія змушаны быў артыст на жаданьнераз'энтузыязмаванай публікі два разы паўтараць. — Агулам артыст выканаў праграму дасканальна. Публіка хвалявалася, энтузыям даходзіў да найвышэйшай ступені.

Цікава тут адзначыць, што расейская публіка, як пераважна ўсюды, так і тут, успрыймала беларускую песьню выключна з боку гумарыстычнага, незалежна ад таго, ці гэта будуць песьні сьмяхотныя ці песьні жальбы. Прымітыўнае становішча, зроджанае неабаснаваным пачуцьцём „вышшасьці“ Расейцаў над Беларусамі, пачуцьцём „вышэйшасьці“ расейскай „арыстакратычнай“ культуры над беларускай „ніжэйшай“ сялянскай культурай.

Часьцейшае выступленьне нашага сьпевака — прадстаўніка „мужычай“ беларускай культуры — гэткаму „успрыйманьню“ беларускай песьні чужынцамі палажыла-б канец, тым больш, што ён сам, будучы высокай культуры, пазбаўлены якога-кольвек „камплексу ніжшасьці“.

**Слухач.**

8-ha maja 1938 h. adbudziecca ŭ Vilni, u zali b. Kanservatoryi Konskaja vulica № 1

**KANCERT**

słaŭnaha śpievaka

**M. ZABEJDY - SUMICKAHA.**

Pačatak a h. 20 m. 30. Bilety ad 0.50 da 5 zł.

*Pierasyłka apłačana ryčałtam.*






## Косаўшчына будзіцца.

У нас доўгі час па ліквідацыі гурткоў Т.Б.Ш., беларускіх бібліятэкаў, беларуская культурная праца была на нейкі час прыціхла. На вёсках было натварылася бяз ліку розных польскіх „кулак“, але яны нічога тут карыснага для вёскі ці моладзі не зрабілі, і ўжо ў апошнія гады яны ўсюды прыціхлі. Сягоньня моладзь Косаўшчыны пачала будзіцца, у многіх вёсках моладзь стала выпісваць „Шлях Міладзі“ і цікавіцца беларускай справай. Некаторыя вёскі Косаўшчыны стаяць на даволі высокім культурным уроўні: моладзь у іх ня п'е гарэлкі, ня іграе ў карты, на вечарыне захоўваецца паважна і г. д, але ёсьць на жаль і вёскі адсталыя, якія, думаю, агледзяцца і ўзыйдуць на добры шлях.
Я. Ч.

## Biełaruskaje pradstaŭleńnie.

*Švir, Šviancianskaha pav.* Kaliś Biełaruski Narodny Teatr abjaždžajučy sioły i miastečki našaha kraju, byŭ pryjechaŭšy i ŭ m. Švir i tut praz niekalki dzion ładziŭ biełaruskija pradstaŭleńni. Paśla adnak biełaruskich pradstaŭleńniaŭ u Šviry nia było. Ale voś sioleta na druhi dzień Vialikadnia 18.IV. adbyłosia biełaruskaje pradstaŭleńnie ŭ Šviry ŭ zali „Domu Ludovaha“, katoraje ładziła „Ochotniča Straž Požarna“ z vioski Bolkaŭščyny. Stavili „Paŭlinku“ i inscenizacyju polskaj pieśni „Leguny“. Jak na viaskovuju moładź, dyk usio adyhrana było nadta dobra, — a heta dziakujučy starańniam vučycielki, katoraja ŭmieła pryhatavała artystaŭ-amataraŭ. Kali zakryvalisia sceny — voplеskam kanca nia było. Ahułam, zacikaŭleńnie, viasiołaść i zdavaleńnie było vialikaje. Cikava tolki, što z h. zv. „vyšejšaj sfery“, — jak u nas zavuć, — nikoha nia było, aprača troch-čatyroch vučycielaŭ. Praŭda, i kala mianie niejki pan siadzieŭ, katory ŭvieś čas chvaliŭ artystaŭ, što dobra ihrajuć, i kazaŭ: „to dlatego u nich dobrze vychodzi, że po białorusku oni odvažniej spravują się“.

Treba adznačyć, što Bolkaŭskaja „Pažarnaja Straž“ pad kiraŭnictvam svajej vučycielki ŭžo druhi raz stavić biełaruskaje pradstaŭleńnie. Pieršaje, paru hadoŭ nazad, stavili ŭ svajej vioscy ŭ Bolkaŭščynie.

Pažadana, kab i naša śvirskaja „Pažarnaja Straž“ i ŭsie inšyja arhanizacyi brali prykład z bolkaŭskaj „Pažarnaj Stražy“.
Śv.




**Mahnitnaja žaleznaja ruda na Biełarusi.** Instytut Hieolohii i Hidraolohii Akademii Navuk Savieckaje Biełarusi vykryŭ u Haradockim rajonie (BSSR) značnyja mahnitnyja anomalii, katoryja ciahnucca šyrokaj pałasoj na 55 klm. na poŭnač ad m. Viciebska. Jana pakazvaje na prysutnaść tut nietraŭ mahnitnaj žaleznaj rudy. Vykryty tak-ža na Biełarusi vivijanity — vartasny syrec dziela vyrabu štučnych uhnajeńniaŭ.

**Kolki ludziej jość u Eŭropie.** Na 1 krasavika sioleta kolkaść ludziej Eŭropy dasiahnuła 535,830,000 asob. Usich haspadarstvaŭ u Eŭropie jość **35:**

6 vialikich: SSSR (eŭrapejskija ziemli) — 137,300 tys. (ci inakš 137 milijonaŭ, 300 tys.), Niamieččyna z Aŭstryjaj — 75,500 tys., Anhlija — 47,780 tys, Italija — 43,300 tys., Francyja — 42 milijony, Polšč — 34,534 tys.

8 bolšych: Rumynija — 19,620 tys., Hišpanija — Franki — 17 milijonaŭ, Juhasłavija — 15,410 tys., čechasłavaččyna — 15,340 tys., Madziarščyna (Vuhryja) — 9,150 tys., Halandyja — 8,640 tys., Belhija — 8,480 tys., Hišpanija Respublikanskaja — 7,200 tysiač.

9 siarednich: Hrecyja — 6,980 tys., Partuhalija — 6,860 tys., švecyja—6,380 tys., Baŭharyja — 6,340 tys, švajcaryja—4,250 tys., Finlandyja — 3,860 tys., Danija — 3.800 tys., Irlandyja — 3,100 tys., Norvehija — 2,950 tys.

7 małych haspadarstvaŭ: Litva — 2,550 tys., Łatvija — 1,980 tys., Turcyja eŭrapejskaja — 1,290 tys., Estonija — 1,150 tys., Albanija — 1,090 tys., Volnaje miesta Hdansk — 420,000, Islandyja — 120,000.

5 drobnych: Monako — 25,000, San Marino — 15,000, Lichtenštein — 11,000, Andora — 6,200, Vatykan—1000 asob.

## *Паштовая скрынка*

С. Крыўцу: Верш, крыху задоўгі, але як пазволіць месца, надрукуем. Прывітаньне!

Нецярпліваму з Слонімшчыны: Ніколі мы таго не хвалілі, што Вы ганіце і ў гэтым выпадку з Вамі згаджаемся, аднак ня хвалім таго, безкрытычна, што Вы хваліце. Адказам на Вашае пісьмо часткова будуць артыкул „Сучасныя ідэолёгічныя кірункі сярод моладзі“ і іншыя артыкулы і зацемкі, які ,знайдзеце ў гэтым нумары.

Ан. Пытлю: Інфармацыі аб Бел. Гімназіі падаём у гэтым нумары. „Шлях Моладзі“ праз увесь час высылаем акуратна.

Арк. Заранку: Атрымалі, дзякуем, будзем пакрысе друкаваць. Прывітаньне!

Р. Хаван--му: Вершы на жаль слабыя і да друку не падходзяць. Больш чытайце і працуйце над імі. Карэспандэнцыю перадалі ў „Зорку“.

Śv. Karespandencyju atrymali, dziakujem, jak bačycie ŭžo drukujem. Pryvitańnie!

Абвяшчаецца, што 17-га чэрвеня 1938 году адбудуцца

## ўступныя экзамены ў Віленскую Беларускую Дзяржаўную Гімназію

### Варункі прыйма:

У I КЛЯСУ прыймаюцца дзеці (хлапцы і дзяўчаты) якія: 1) будуць мець на 1-га верасьня 1938 г. ня менш 12 і няпоўных 16 гадоў і 2) скончылі 6 (шэсьць) ці 7 (сем) аддзелаў пачаткавай школы. Хто перарос ня больш як на адзін год можа складаць просьбу ў Кураторыю аб дапушчэньні да экзамену. Хто прадставіць пасьведчаньне аб сканчэньні 6 ці 7 аддзелаў пач. школы, той здае экзамен паступаючы у І-ю кл. (былую III кл.) толькі з польскае мовы, арытмэтыкі і географіі. Іншыя кандыдаты здаюць поўны экзамен з 6-ці аддзелаў пач. шкл.

У II КЛЯСУ прыймаюцца дзеці па экзамену з усіх прадметаў у абойме праграмы I кл. гімназіі, калі на 1.IX.1938 г. будуць мець ня менш 13 і ня больш 16 гадоў.

Заявы прыймаюцца да 15 чэрвеня 1938 г. Да заявы трэба далучыць: 1) мэтрыку, 2) школьнае пасьведчаньне, 3) пасьведчаньне аб прышчэпе воспы, 4) дэклярацыю аб тым, што кандыдат па нацыянальнасьці беларус; ды перасланць на Р. К. О. (блянкет можна купіць на кожнай пошце) 10 зл. за экзамен на наступны адрыс: Filija Białoruska Państwowego Gimnazjum im. J. Słowackiego w Wilnie P. K. O. № 703.304. — Плата за навуку 220 зл. у год.

*Адрыс Бел. Гімназіі наступны: Biełaruskaja Filija Państw. Gimnazjum im. J. Słowackiego — Wilno, ul. Dominikańska 3/5.*

*„Шлях Моладзі“ рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego“ 59.

Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.